


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

10 ліпеня 2015 года №28 (1054)


## Алё. Гэта ратаванне на водах? У нас тапелец...

старонка 2



## Піцер. Горад, пра які нельга сказаць: я там быў

старонка 21

## Кіроўца наехаў на дзяўчынку. Яна трапіла ў рэанімацыю

старонка 4





# З-за несумленных людзей у нашым двары сабачая ферма

Гэту гісторыю чытайце на 5-й старонцы

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.



Фота Ігара МАРОЗА.

Вілейскае вадасховішча, Чыжэўская затока. Сюды часта прыязджаюць адпачыць і пакупацца.

● НАРЫС

# Алё. Гэта ратаванне на водах? У нас тапелец...

МАЛАДЗЕЧНА

**Полудзень. На вуліцы спякота за 30. Заходжу ў дом. Тэлефонны званок.**

Бяру трубку, з яе голас:

– Дзяжурны Маладзечанскага РАУС. Вы прадстаўнік Таварыства выратавання на водах у нас у раёне?

– Так.

– У кар'еры вёскі Мароські, здаецца, тапелец. Аператыўная група ўжо выехала, патрэбны вадалаз.

Пачуццё нядобрае. Першы загінулы ў гэтым купальным сезоне. Даю нумар тэлефона манеўрана-пошукавай групы, потым тэлефаную начальніку выратавальнай службы, адначасова прыкідваю, як лепш праехаць на месца.

Праз паўгадзіны ўжо на месцы здарэння. Адразу бачу машыну опергрупы. Супрацоўнікі ўжо займаюцца сваёй справай. Ля машыны некалькі чалавек без формы. Маладыя мужчыны і жанчына гадоў трыццаці. Ва ўсіх разгубленасць на тварах.

Звяртаюся да жанчыны і прашу паказаць месца, дзе яны адпачывалі. Выходзім на бераг кар'ера. У траве пустыя бутэлькі, смецце, рэшткі ўчарашняга пікніка. Тапелец яе родны брат.

– Учора адзначалі дзень нараджэння, купаліся, загаралі, – кажа яна. – Пасля абеду яго ўжо ніхто не бачыў, падумалі, што сонца размарыла і недзе заснуў. Плаваў добра.

Гляджу на спакойную, ледзь кранутаю рабізной роўнядзь вады і з цяжкім сэрцам думаю, што пад ёй на дне цела 32-гадовага мужчыны.

Гарачае надвор'е, усіх цягне да вады, а тут яшчэ добрая нагода расслабіцца – дзень нараджэння. Нядбайнасць: выпіў, дзеянне алкаголю прытупіла ступень небяспекі, павысіла неабгрунтаваную веру ў свае сілы.

А ў былых кар'ерах крыніцы б'юць – халодная вада падымаецца блізка да паверхні. Цела трапляе з цяпла ў холад – спазм сасудаў або мышцы зводзіць сутарга, рэзкі боль, сутаргавы ўздых, а ў лёгкія трапляе не жыватворнае паветра, а вада... І маем тое, што маем. Застаецца толькі выказаць шчырыя спачуванні яго блізкім.

Мая праца на беразе скончаная. Тэлефаную начальніку манеўрана-пошукавай групы, тлумачу, як праехаць на месца. У канцы размовы ён паведамляе, што ёсць для іх яшчэ адна работа ў нашым раёне. З цяжкім сэрцам пытаюся:

– Дзе?

– У Насілаве.

Пра сябе лаюся.

Праз гадзіну я ўжо ў Насілаве. Недалёка ад царквы на беразе машына опергрупы. Малады лейтэнант спрабуе ўзяць тлумачэнне ў маладога чалавека гадоў 35. Той з цяжкасцю фармулюе думкі:

– З сябрам былі ў мяне ў гасцях у суседняй вёсцы. Выпілі, вырашылі пакупацца. Прыйшлі на возера. Яшчэ паддалі і вырашылі пераплысці возера. Я паплыў першым, даплыў да берага. Сябар быў яшчэ толькі на сярэдзіне. Я вырашыў паплысці яму насустрач. Пакуль плыў, ён ужо кудысьці знік!

Зноў алкаголь, зноў купанне ў забароненым месцы, зноў вадаём з падводнымі крыніцамі і зноў пераацэнка сваіх сіл пад дзеяннем алкаголю.

Колькі ні гаворым пра небяспеку купання ў забароненых месцах, колькі ні заклікаем людзей да асцярожнасці, знаходзяцца такія, хто не разумее.

І вось жа. На кар'ерах у Мароськах і ў вадаёме ў Насілаве амаль кожны год тонуць людзі.

**Аляксандр СЕМАШКЕВІЧ,**
**старшыня Маладзечанскага таварыства ратавання на водах.**

## Ад пачатку летняга сезона ў рэгіёне патанулі шэсць чалавек*

| Раён | Колькасць загінулых | Дата | Месца |
|---|---|---|---|
| Валожынскі | 1 | – | Вёска Лістапады |
| Вілейскі | 1 | 7 чэрвеня | Рака Сэрвач |
| Вілейскі | 1 | 2 ліпеня | Канал Вілейска-Мінскай воднай сістэмы |
| Маладзечанскі | 1 | 4 ліпеня | Вёска Мароські |
| Маладзечанскі | 1 | 5 ліпеня | Вёска Насілава |
| Смаргонскі | 1 | 4 ліпеня | Вадаём у вёсцы Сінькі |

У Астравецкім, Ашмянскім і Мядзельскім раёнах за гэты час ніхто не патануў.

***По інфармацыі Таварыстваў па выратаванні на водах.**

**Настасся РОЎДА.**



Фота vk.com.

● ДА 20-ГОДДЗЯ "РГ"

## Вячаслаў Курбака віншуе "РГ" вершам

*Як дваццаць зор на небасхіле*
*Вы асвячаеце наш шлях,*
*Пяшчотным словам з родных ніваў*
*Край праслаўляеце ў радках.*

*І з году ў год сваёю працай*
*Красу купалавых мясцін,*
*Ды люду, што душой багаты,*
*Урачысты Вы пяеце гімн.*

*Мне цяжка ўспомніць ту часіну,*
*Калі з "РГ" не разам быў.*
*К табе любоў, як да жанчыны,*
*Што скрозь гады не пазабыў,*

*Што кожны год, нібы багіня,*
*Красою зззяе ўсё ярчэй*
*І словам цешыць салаўіным…*
*Ты з кожным годам маладзей,*

*Красуй, шчыруй у бацькоўскім доме,*
*Праз аркуш праўды свет нясі.*
*Дай Бог гадоў табе раздолле,*
*Як Беларусь – заўжды жыві!*

**Вячаслаў КУРБАКА,**
**маладзечанец.**



Фота vk.com.

Аляксандр Яхнавец (злева) і Сяргей Лютарэвіч падпісваюць дакумент аб партнёрстве Маладзечна і горада Светлы.

● АФІЦЫЙНА

## Маладзечна ўстанавіла партнёрскія адносіны з горадам Светлым Калінінградскай вобласці Расіі

МАЛАДЗЕЧНА

**Дагавор аб партнёрскіх стасунках заключылі 3 ліпеня.**

Яго падпісалі старшыня Маладзечанскага райвыканкама **Аляксандр Яхнавец** і кіраўнік адміністрацыі муніцыпальнага ўтварэння "Светлаўская гарадская акруга" старшыня акруговага Савета дэпутатаў **Сяргей Лютарэвіч**.

На цырымоніі прысутнічалі госці з польскіх Саколкі і Дамбровы Беластоцкай, з расійскай Каломны. У Маладзечна з гэтымі гарадамі таксама існуюць даўнія партнёрскія стасункі.

Падпісанне дагавора аб партнёрстве з'явілася новым этапам у адносінах Маладзечна і Светлага. 22 мая мінулага года ўладамі гэтых беларускага і расійскага гарадоў падпісваўся дагавор аб намерах.

Сяргей Лютарэвіч – ураджэнец Беларусі, член Савета рэгіянальна-культурнай аўтаноміі "Калінінградскае зямляцтва беларусаў".

**Аддзел інфармацыі.**




Фота Ігара МАРОЗА.

Чакаць зніжэння цэн на паслугі ЖКГ і транспарт у бліжэйшыя пяць гадоў не даводзіцца.

ЭКАНОМІКА

# Кошт большасці паслуг ЖКГ будзе працягваць расці

**Мяркуецца, што ў 2016–2020 гадах узровень кампенсацыі насельніцтвам кошту жыллёва-камунальных паслуг будзе павышацца штогод.**

Паводле інфармацыі БелаПАН, такія прапановы разглядаюцца ў межах падрыхтоўкі праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на бліжэйшыя пяць гадоў, якая павінна быць зацверджаная сёлета на Усебеларускім народным сходзе.

Паводле ацэнак эканамічных улад, у 2015 годзе тарыфы насельніцтва пакрываюць прыкладна траціну затрат, звязаных з аказаннем жыллёва-камунальных паслуг. У перыяд ад 2016 года да 2018-га штогод узровень кампенсацыі насельніцтвам затрат на аказанне такіх паслуг будзе павышацца прыкладна на 10% і дасягне 62,5% у канцы 2018-га.

Прадугледжваецца, што ў 2018 годзе насельніцтва будзе цалкам пакрываць кошт усіх жыллёва-камунальных паслуг за выключэннем цеплазабеспячэння. Па цеплавой энергіі (ацяпленне і гарачае водазабеспячэнне) акупнасць затрат насельніцтвам плануецца давесці ў 2020 годзе да 30%, што прыкладна ўдвая вышэй за цяперашні ўзровень.

**Разам з ростам тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі ў новай пяцігодцы плануецца і рост тарыфаў на транспартныя паслугі.**

Мяркуецца, што ўзровень кампенсацыі насельніцтвам затрат на пасажырскія перавозкі ў Мінску вырасце з цяперашніх 50% да 75% у 2020 годзе.

На ліквідацыі бюджэтнага і перакрыжаванага субсідавання настойваюць міжнародныя фінансавыя арганізацыі, да якіх Беларусь звярнулася па новыя крэдыты. Яны лічаць непрымальнай цяперашнюю практыку, калі больш нізкія тарыфы на платныя паслугі для насельніцтва забяспечваюць за кошт устанаўлення больш высокіх тарыфаў для прадпрыемстваў і субсідый бюджэту.

Паводле ацэнак экспертаў, з улікам патрабаванняў крэдытораў, павышэнне цэн на платныя паслугі ў Беларусі ў 2016–2020 гадах вельмі верагоднае. Пры гэтым эканамісты зазначаюць, што ў краіне пакуль не створаныя адэкватныя механізмы сацыяльнай падтрымкі ўразлівых слаёў насельніцтва.

"Разам з павышэннем тарыфаў для насельніцтва павінны быць створаныя механізмы для кампенсацыі фінансавых страт, якія панясуць уразлівыя слаі насельніцтва. Плюс да гэтага павінны быць максімальна зніжаныя выдаткі ў сістэме ЖКГ, якія павышаюць кошт платных паслуг. Рэформа павінна прадугледжваць комплекс мер, тады яна будзе насіць цэласны характар", – мяркуе дырэктар даследчага цэнтра ІПМ **Аляксандр Чубрык**.

Эксперты называюць некалькі сацыяльных груп, якія ў найбольшай ступені могуць пацярпець ад павышэння тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі.

"Пастаянны рост тарыфаў на такія паслугі можа стаць найбольш адчувальным для пенсіянераў, шматдзетных і няпоўных сем'яў. У такіх сем'ях колькасць занятых членаў сям'і адносна невялікая, ім цяжка атрымаць эфект ад маштабу, і таму для іх павышэнне тарыфаў мае найбольшае значэнне", – зазначае эканаміст **Глеб Шымановіч**.

Нагадаем, згодна з дзеючым у Беларусі заканадаўствам, тэмпы росту тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі вызначаюцца дзяржавай і рэгламентуюцца рашэннямі прэзідэнта. Згодна з указам №550, прынятым у канцы 2013 года, штогод з 1 студзеня тарыфы на такія паслугі павышаюцца ў памеры, эквівалентным 5 доларам ЗША.

**Дзмітры ЗАЯЦ, БелаПАН.**

## ЗМК: заробкі за май выплачаныя, але дагавораў пакуль няма

МАЛАДЗЕЧНА

Намеснік генеральнага дырэктара па ідэалагічнай рабоце і агульных пытаннях **Аляксандр Саўчыц** пацвердзіў "Рэгіянальнай газеце" інфармацыю пра тое, што прадпрыемства цалкам разлічылася з рабочымі па заробках за май.

Выплаты заробкаў за чэрвень павінны правесці 21 ліпеня.

Наконт інфармацыі пра новыя рынкі збыту завода, Аляксандр Мікалаевіч адказаў, што без заключэння дагавораў пра гэта гаварыць рана.

Раней "Рэгіянальная газета" пісала пра тое, што на прадпрыемстве існуюць праблемы з выплатай заробкаў.

**Наталля ТУР.**



### ЛІЧБА НУМАРА

Інфаграфіка Настассі РОЎДЫ.

**72** арганізацыі нашага рэгіёна маюць пратэрмінаваныя запазычанасці па зарплаце на 1 ліпеня

**9** – у Астравецкім, Ашмянскім і Валожынскім раёнах

**63** – у Вілейскім, Маладзечанскім, Мядзельскім і Смаргонскім раёнах

За месяц іх колькасць павялічылася на **18**

Паводле Нацыянальнага статыстычнага камітэта Беларусі.

| Курсы валют НБ РБ | 2.07 | 9.07 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 15 357,00 | **15 446,00** |
| Еўра | 17 056,00 | **17 046,00** |
| Злоты | 4 086,67 | **4 030,24** |
| Расійскі рубель | 276,75 | **270,12** |
| Грыўня | 730,14 | **717,77** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 8.07** | | |
| Еўра | 16950/17190 | **16820/17050** |
| Долар ЗША | 15250/15400 | **15350/15500** |

**Цэны на рынку** (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 1.07 | 8.07 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 139900 | **139900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53750 | **53700** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28700 | **28900** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70000 | **85000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 37300 | **37800** |
| Селядзец, 1 кг | 54000 | **54000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 115000 | **98000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14000 | **14000** |
| Грэчка, 0,8 кг | 13700 | **13700** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 12000 | **12000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 18500 | **19000** |
| Маянэз, 200 г | 4900 | **5000** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14500 | **14500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 35000 | **35000** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 12500 | **12500** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 11900 | **11500** |
| Капуста, 1 кг | 6500 | **5500** |
| Морква, 1 кг | 17000 | **17000** |
| Буракі, 1 кг | 13000 | **10000** |
| Лімоны, 1 кг | 34500 | **24900** |
| Апельсіны, 1 кг | 17900 | **17900** |
| Мандарыны, 1 кг | 29900 | **34500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 35000 | **34900** |
| Ківі, 1 кг | 39500 | **36900** |
| Нектарыны, 1 кг | 34500 | **26500** |
| Абрыкосы, 1 кг | 38000 | **29500** |
| Клубніцы дамашнія, 1 кг | 28000 | **45000** |
| Чарэшні, 1 кг | 35000 | **33000** |
| Памідоры, 1 кг | 18500 | **18500** |
| Агуркі, 1 кг | 6000 | **6000** |
| Перац, 1 кг | 46500 | **42900** |
| Вінаград, 1 кг | 49900 | **39900** |
| Бананы, 1 кг | 17500 | **15900** |
| Кавун, 1 кг | 12000 | **10000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 20000 | **18500** |
| Яблыкі, 1 кг | 15900 | **15500** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 29500 | **28500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 15000 | **15000** |
| Масла, 1 кг | 100000 | **100000** |
| Тварог, 1 кг | 55000 | **55000** |
| Бульба маладая, 1 кг | 11900 | **9500** |
| Сала, 1 кг | 90000 | **90000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20000 | **20000** |
| Мёд, 0,5 л | 55000 | **55000** |

# Кіроўца наехаў на шасцікласніцу

## Яна трапіла ў рэанімацыю

**МАЛАДЗЕЧНА. Адшукаць кіроўцу, які пасля здарэння ўцёк, дапамог малодшы брат пацярпелай дзяўчынкі.**

Здарэнне адбылося 4 ліпеня пасля 16 гадзін вечара на завулку Асіпенкі, што ідзе ад вуліцы Янкі Купалы, распавёў намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў**.

Па дарозе ішлі сястра з братам. Кіроўца наехаў на 12-гадовую дзяўчынку і ўцёк з месца здарэння. Яна атрымала цяжкія пашкоджанні і трапіла ў рэанімацыю.

Дзесяцігадоваму хлопчыку пашчасціла: ён толькі моцна спалохаўся і збіў калені. Аднак паспеў запомніць машыну і назваў яе марку: "Фіят".

Дзякуючы гэтаму, а таксама асколкам ад фары, якія засталіся на месцы здарэння, супрацоўнікі міліцыі пад кіраўніцтвам начальніка ДАІ **Дзмітрыя Юркевіча** затрымалі кіроўцу. За рулём быў 54-гадовы жыхар Чысці.

Цяпер ён знаходзіцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

### Доктар – пра стан дзяўчынкі

Праз два дні пасля аварыі яе стан палепшыўся: яна прыйшла ў свядомасць, пакрыху есць і гаворыць.

Дыягназ, які паставілі дактары, – закрытая чэрапна-мазгавая траўма сярэдняй ступені цяжкасці, удар галаўнога мозга сярэдняй ступені цяжкасці, уціснуты пераломам цемянной косці справа.

– Яе жыццю ўжо нічога не пагражае, – кажа загадчык аддзялення анестэзіялогіі і рэанімацыі доктар-анестэзіёлаг-рэаніматолаг **Сяргей Варонін**. – Стан касцей нармальны. Гематомы няма. Яна адэкватная і адказвае на пытанні. Аднак пакуль яшчэ вельмі слабая, хутка стамляецца.

Яшчэ некалькі дзён дзяўчынка правядзе ў рэанімацыі, пакуль будзе ісці аднаўленчы перыяд.

– Яна патроху есць, але патроху нас не задавальняе, – тлумачыць Сяргей Варонін. – Мы хочам, каб яна пачала добра засвойваць ежу, каб яе свядомасць не была такой млявай.

Пасля гэтага дзяўчынку накіруюць на лячэнне і аднаўленне ў хірургічнае аддзяленне.

**Настасся РОЎДА.**






Воля Лагуцька.



Ганна Лагуцька.

ВЫШУК

## Забрала дачку з летніка і знікла разам з ёй

ВАЛОЖЫН

**Шукаюць 12-гадовую мінчанку Волю Лагуцьку.**

Дзяўчынка знаходзілася на аздараўленні ў дзіцячым летніку "Палачанка", які месціцца ў вёсцы Палачанка на Валожыншчыне.

13 чэрвеня, прыкладна ў 21:00, з дазволу адміністрацыі лагера яна разам са сваёй маці **Ганнай Лагуцькай** паехала ў Мінск. Назад не вярнулася і дагэтуль невядома, дзе дзяўчынка.

**Прыкметы:** на выгляд каля 12 гадоў; рост 155-158 сантыметраў; хударлявая; плечы гарызантальныя; твар еўрапейскага тыпу, авальны, бледны; лоб сярэдні, вертыкальны; бровы па форме прамыя, па вышыні сярэднія; вочы шэра-блакітныя; нос сярэдні, прамы; рот сярэдні; вусны сярэдняй таўшчыні; падбародак вертыкальны; вушы сярэднія, па форме трохвугольныя; валасы прамыя, цёмна-русыя, стрыжка "карэ" да плячэй; голас звонкі; гаворка ясная; гаворыць хутка. Нетаварыская.

Калі вы штосьці ведаеце пра месцазнаходжанне Волі і Ганны Лагуцькаў, паведаміце ў Валожынскі раённы аддзел унутраных спраў па тэлефонах: **8-01772-55302**, **8-01772-54021** (дзяжурная часць), **8-029-6855302** (Вэлком), **8-029-5076698** (МТС) альбо бліжэйшы аддзел міліцыі па тэлефоне **102**.

**Юлія СЕЛЯТЫЦКАЯ, старшы следчы Валожынскага РАСК.**

МІЛІЦЫЯ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Гаспадары ровараў спакушаюць зладзеяў

МАЛАДЗЕЧНА

**Сёлета на Маладзечаншчыне скралі 13 ровараў, а знайшлі і вярнулі гаспадарам толькі два з іх.**

Уласнікі часта самі ніяк не абараняюць сваю маёмасць. Ровар гэтак жа, як і дзіцячую каляску, трэба захоўваць у кватэры ці падвале. І, безумоўна, не пакідаць без нагляду.

Калі вы ставіце яго на лесвічнай пляцоўцы, то можаце атрымаць штраф за парушэнне правілаў карыстання жылога памяшкання.

### Гаспадару ровара

– Захоўвайце дакументы, якія атрымалі ў краме пры пакупцы. Купляючы без дакументаў, вы можаце набыць крадзенага "каня";

– перапішыце ці сфатаграфуйце серыйны нумар рамы, які звычайна выбіты на карэтачным вузле рамы. Зрабіце некалькі фота веласіпеда, запомніце яго прыкметы – драпіны, наклейкі;

– не пакідайце ровар. Замкі і сігналізацыя – толькі часовая перашкода для злодзея;

**Паводле сёлетняй статыстыкі па Мінскай вобласці, гаспадарам вяртаюць адзін з чатырох скрадзеных ровараў.**

– нават калі пакідаеце веласіпед на хвіліну, прышпільвайце замком. Пажадана так, каб вы маглі яго бачыць, напрыклад, праз акно;

– не давярайце прыглядаць за роварам незнаёмым, напрыклад, прадаўцу кіёска;

– старайцеся пакідаць ровар так, каб ён трапляў у поле камер відэаназірання;

– прышпільвайце яго да трывалых канструкцый: парэнчаў, агароджы;

– прышпільвайце за кола і раму, а калі магчыма – за два колы і раму;

– забірайце з сабой здымнае абсталяванне – велакамп'ютар, асвятленне, помпу. І нават сядло, калі сыходзіце надоўга, а яно здымнае.

### Калі ваш ровар скралі

1. Звaніце ў міліцыю.
2. Запішыце час крадзяжу, агледзьцеся.
3. Пашукайце камеры відэаназірання.
4. Пашукайце сведкаў, запішыце іх нумары.
5. Калі будзеце звяртацца ў міліцыю, вам спатрэбіцца пашпарт, дакументы на ровар, яго фота ці апісанне.
6. Раскажыце пра крадзеж знаёмым-раварыстам, яны могуць убачыць яго ў горадзе.
7. Глядзіце мясцовыя аб'явы аб продажы ровараў.

### Калі вы скралі ровар

Крадзеж караецца грамадскімі работамі ці штрафам, ці выпраўленчымі работамі да двух год, ці арыштам да шасці месяцаў, ці абмежаваннем свабоды да трох год, ці пазбаўленнем свабоды на тры гады.

За яўку з павіннай, калі цалкам пакрываюць шкоду і дапамагаюць міліцыі, вызваляюць ад крымінальнай адказнасці.

Калі вы сталі сведкам крадзяжу, пазваніце па тэлефонах: **102, (80176) 77–16–56, 77–14–11** у рабочыя дні ад 9 да 18 гадзін.

**Валянцін АСІПОВІЧ, начальнік Маладзечанскага райаддзела міліцыі.**



ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## На дарозе насмерць збілі жанчыну

МАЛАДЗЕЧНА

**Аварыя адбылася 7 ліпеня прыкладна ў 12:30 каля пешаходнага перахода, што ля СШ №8.**

Паводле слоў відавочцаў, з якімі карэспандэнтка "РГ" пагутарыла на месцы здарэння, жанчына ішла наўскасяк побач з пешаходным пераходам.

Ад удару "Опеля", кіроўца якога ехаў па Касманаўтаў у бок чыгункі, жанчыну моцна адкінула. Адляцелі капялюш, акуляры і абутак.

Як пацвердзіў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**, жанчына загінула.

**Наталля ТУР, Настасся РОЎДА.**

АФІЦЫЙНА

## Паведамляйце пра выраб і продаж самагонкі

МАЛАДЗЕЧНА

**У Беларусі распаўсюджваецца п'янства сярод насельніцтва.**

Расце колькасць людзей, якія ці стаяць на наркалагічным уліку ў дыспансеры, ці злоўжываюць алкаголем, ці пакутуюць на хранічны алкагалізм.

Нягледзячы на даступныя цэны і шырокі асартымент алкагольных і слабаалкагольных напояў і піва, працягвае карыстацца попытам самагонка.

Людзей не палохаюць магчымыя трагічныя наступствы ўжывання фальсіфікаваных спіртных напояў і самагонкі, пра якія рэгулярна інфармуюць органы ўнутраных спраў, аховы здароўя і іншыя дзяржаўныя органы.

Калі вам вядомыя факты вырабу альбо продажу вадкасцяў, якія ўтрымліваюць спірт, просім паведаміць пра гэта па тэлефоне **8-029-8637046**.

**Па інфармацыі Маладзечанскага органа ўнутраных спраў на транспарце.**

ПЫТАЙЦЕСЯ – АДКАЗВАЕМ

# З-за несумленных людзей у нашым двары сабачая ферма

ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыю газеты звярнулася наша чытачка Таццяна. Яна стамілася ад таго, што ў іх двор пастаянна падкідаюць сабак і шчанюкоў.**



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Гаспадыня Валянціна з вёскі Порса на Вілейшчыне лашчыць сваіх "падкідышаў", якіх агулам у яе восем. На здымку – тыя, якіх падкінулі літаральна два тыдні таму.

Бацькі Таццяны жывуць у Порсе – блізкім прыгарадзе Вілейкі.

Два месяцы таму ў іх здарылася наступная гісторыя:

– Да нашага плота пад'ехала дарагая машына, – распавядае Таццяна, – з яе выйшлі дзве жанчыны і натуральна выпхнулі сабаку з задняга крэсла машыны. Самі ўскочылі назад і з'ехалі. А сабака, якога потым назвалі Фокусам, прыбіўся да нас. Застаўся жыць.

Але здарылася бяда, сабаку тры тыдні таму на гэтай жа дарозе збіла машына.

А два тыдні таму бацька Таццяны ўбачыў, што ў іх двор нехта кінуў вялікі чорны пакет, а ў ім знаходзіліся чатыры маленькія шчанюкі.

**– Сабачкі былі такія галодныя, – кажа Таццяна, – што грызлі пальцы таму, хто хацеў іх пагладзіць.**

Бацька Таццяны змірыўся з гэтай знаходкай і пабудаваў навасельцам будку.

– Але разам з гэтай чацвёркай, – кажуць гаспадары, – у іх двары ўжо жывуць восем сабак, якіх таксама знаходзілі раней.

Таццяна пытаецца, ці павінны хто за гэта несці пакаранне, асабліва калі бачыш тых, хто не саромеецца выкінуць свайго гадаванца наўпрост на трасу.

## Сабаку можна аддаць у міліцыю

На пытанне, што рабіць у такіх выпадках з юрыдычнага пункту гледжання, адказвае адвакат Маладзечанскай юрыдычнай канторы №2 **Уладзіслаў Філіпаў**:

– У Грамадзянскім кодэксе Беларусі ў артыкуле 231 "Бяздомныя жывёлы" гаворыцца, што чалавек, які знайшоў ці затрымаў бадзяжную дамашнюю жывёлу, абавязаны вярнуць яе ўласніку, а калі ўласнік жывёлы або месца яго знаходжання невядомыя, не пазней за тры дні з моманту затрымання заявіць пра гэту жывёлу ў міліцыю або орган мясцовага кіравання і самакіравання, якія прымаюць меры па вышуку ўласніка.

– Пакуль будуць шукаць гаспадара, – тлумачыць Уладзіслаў, – жывёлу можа пакінуць у сябе той, хто яе знайшоў, або папрасіць у міліцыі знайсці асобу, у якой ёсць магчымасць утрымліваць жывёлу, пакуль гаспадар не знойдзецца. І толькі праз некалькі месяцаў, калі гаспадар не знаходзіцца, чалавек мае правы пакінуць жывёлу сабе. Калі казаць прасцей, знойдзеныя коцікі, сабачкі і кароўкі прыраўноўваюцца да іншай знойдзенай маёмасці і правілы на яе вяртанне такія ж.

## Прыводзіць не трэба, трэба паведамляць

Намеснік начальніка Маладзечанскага раённага аддзела ўнутраных спраў па ідэалагічнай рабоце **Уладзімір Васількоў** прызнаецца, што выпадкаў, каб хтосьці паведамляў у міліцыю пра знойдзеную жывёлу, у іх не было:

– Бывае, тэлефануюць, што недзе там бадзяжныя сабакі бегаюць, тады мы перанакіроўваем такіх людзей у "Камунальнік". А каб нехта знайшоў дамашняга сабаку і паведаміў пра гэта ў міліцыю, не.

Між іншым, працягвае Уладзімір Васількоў, у выпадку, калі вы бачыце, што нехта наўмысна выкідвае сабаку з машыны, напрыклад, запаміняйце нумар той машыны і тэлефануйце ў міліцыю. За гэта чалавеку можа пагражаць штраф.

Дарэчы, гаспадары з Вілейкі гатовыя падзяліцца сваім шчасцем з іншымі. Калі вам трэба сабачка, дайце ведаць рэдакцыі, мы вас абавязкова звяжам з гаспадарамі.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)

ДАПАМОГА

## Сашы неабходная каляска

МЯДЗЕЛ

**У "РГ" з просьбай аб дапамозе зноў звярнулася маці пяцігадовай Сашы.**



Яна піша: "Мы прайшлі з Сашай чацверты курс рэабілітацыі ў Трускаўцы. За гэты час у нас надрэнныя поспехі. Сашка добра працуе дзвюма ручкамі. Ножкі падужэлі. З'явіліся новыя склады ў гаворцы. Ужо слова "так" кажа пастаянна, дзе трэба і дзе не трэба.

У Трускаўцы зрабілі здымак тазасцегнавых суставаў. Здымак вельмі засмуціў. З левага боку дысплазія невялікая, але з правага – падвывіх тазасцегнавога сустава.

Сашка стаяла б і сама, але нам сказалі, што без аперацыі на суставы не абысціся. Для такой аперацыі трэба спецыяльнае абсталяванне. У Беларусі пакуль такіх імплантантаў няма.

Прапанавалі зрабіць аперацыю ва Украіне ў Львове. Прафесар ўжо глядзеў здымак, імпланты яны падбяруць. Самі прафесары, якія робяць гэтую аперацыю, прыязджаюць у Львоў са спецыяльным абсталяваннем з Харкава. Аперацыя будзе каштаваць каля 33 мільёнаў беларускіх рублёў, без рэабілітацыі.

Пасля аперацыі Сашка будзе ў гарсэце, не ў гіпсе. Нам неабходная каляска для дзетак з дзіцячым цэрабральным паралічом. Таму што ў нас звычайная каляска, ножкі па зямлі цягнуцца. А пасля аперацыі ёй неабходная спецыялізаваная. Трэба проста, каб яна правільна сядзела, ножкі былі на правільным узроўні. Таму мы просім вас дапамагчы са зборам сродкаў на каляску для Сашы.

Нашы беларускія каляскі ёй не падыходзяць: Сашка вельмі маленькая для іх, важыць толькі 11 кілаграмаў. Мы ўжо глядзелі гэтыя каляскі, яны вельмі цяжкія, я з такой каляскай не нацягаюся па аўтобусах і цягніках. Беларускія каляскі толькі для дзяцей старэйшага ўзросту.

Аперацыя будзе ў ліпені, таму нам вельмі трэба сабраць неабходную суму.

На дадзены момант у нас сабрана толькі 3 мільёны 380 тысяч беларускіх рублёў. Каляска каштуе 21 мільён беларускіх рублёў. На жаль, нам гэту суму самім не сабраць. У мяне двое дзяцей, працуе толькі бацька, я – па доглядзе за дзіцем. Пасёлак у нас маленькі, таму спецыялізаваных садкоў няма".

**Наталля МАЦКЕВІЧ, маці Сашы.**

**Даведка "РГ". Дысплазія** – няправільнае развіццё тканак, органаў або частак цела.

### Як пералічыць грошы

**WEBMONEY:**
E337275010761 – еўра;
Z327686281157 – долары;
R194764232739 – расійскія рублі;
B411825951365 – беларускія рублі.
**EasyPay** 00344176
Дабрачынныя рахункі адкрытыя ў цэнтры банкаўскіх паслуг 619 ААТ "АСБ Беларусбанк" – Мядзел, вуліца Набярэжная, 4
УНП 600198997
МФА 153001769
– **Беларускія рублі** – транзітны рахунак 3819382190343 на дабрачынны рахунак 000009 у цэнтры банкаўскіх паслуг 619, бестэрміновы
– **Расійскія рублі** – транзітны рахунак 3819382108410 на дабрачынны рахунак 000005 у цэнтры банкаўскіх паслуг 619, бестэрміновы
– **Долары ЗША** – транзітны рахунак 3819382108410 на дабрачынны рахунак 000025 у цэнтры банкаўскіх паслуг 619, бестэрміновы
– **Еўра** – транзітны рахунак 3819382108410 на дабрачынны рахунак 000002 у цэнтры банкаўскіх паслуг 619, бестэрміновы
**Прызначэнне плацяжу:** Наталлі Рыгораўне Мацкевіч на лячэнне і рэабілітацыю дачкі Аляксандры Паўлаўны Якушэнкі
**Нумар МТС для папаўнення балансу:**
+37529 256-75-32 – зарэгістраваны на Наталлю Мацкевіч (маці Сашы).
**Адрас для паштовага пераводу:**
222395, Рэспубліка Беларусь, Мінская вобласць, Мядзельскі раён, к.п. Нарач, вул. Кастрычніцкая, д.33. кв.32
Наталлі Рыгораўне Мацкевіч
**Прызначэнне плацяжу:** На лячэнне і рэабілітацыю дзіцяці Аляксандры Паўлаўны Якушэнкі, згодна з выпісным эпікрызам 21777/573 і пасведчаннем серыі 09 0431282
**Кантакты:**
+ 37529256-75-32 Наталля, маці Сашы
+ 37533319-93-18 Павел, бацька Сашы
+ 37533351-11-42 Ульяна, сястра Сашы
Дамашні нумар: (8-01797) 25-1-92

ФЕСТЫВАЛІ

# Гонар продкаў: эпоха сярэднявечча і дыба як сродак ад п'янства

ВІЛЕЙКА

**Мінулыя выхадныя віляйчанам і шматлікім гасцям горада запомніліся не толькі надзвычайнай гарачынёй, але і тым, што па горадзе цягам двух дзён разгульвалі сапраўдныя рыцары.**



Падчас фестывалю герой здымка называў сябе неадукаваным шатландскім пехацінцам.

4-5 ліпеня ў Вілейцы праходзіў першы рыцарскі фестываль "Гонару продкаў".

Адным з арганізатараў свята стаў ваярска-гістарычны клуб "Паходня". **Андрэй Арлоўскі**, удзельнік клуба, расказаў "Рэгіянальнай газеце", што яны даўно марылі зладзіць такое мерапрыемства ў сваім родным горадзе.

– Мы бывалі на розных рыцарскіх турнірах і вельмі хацелася нешта адмысловае зрабіць у сябе. Цяпер мы можам сказаць, што гэта ў нас атрымалася.

Спецыяльна для фэсту збудавалі гарадзішча з замчышчам і сярэднявечным горадам.

– Вельмі хочацца, каб драўляны горад, які мы рабілі сваімі сіламі цягам тыдня, прастаяў як мага даўжэй, – прызнаецца Андрэй. – Не хочацца бурыць тое, у што ўкладаў душу. Бо падрыхтоўка да фестывалю заняла шмат сіл і часу.

Мэта фестывалю была пазнаёміць прысутных з гісторыяй, культурай, побытам насельніцтва ВКЛ і яго суседзяў, увачавідкі ўбачыць сярэднявечныя ваенна-палявыя лагеры, стаць сведкамі рэканструкцыі бітваў і турніраў, пазнаёміцца з рамёствамі, паўдзельнічаць у сярэднявечных гульнях і забавах, паслухаць этнічную музыку і з галавой акунуцца ў займальны свет нашых продкаў.

– Адзінае, што засмуціла – гэта неверагодна гарачае надвор'е. У даспехах трываць было немагчыма.

– Праз спякотнае надвор'е мы не паехалі на другі дзень фестывалю, – прызнаецца глядачка фестывалю **Ганна Тамковіч**. – А так хацелася паглядзець, як будуць "браць штурмам горад".

Ганна таксама адзначыла, што калі мэтай фестывалю было паглыбленне ў эпоху ВКЛ, то яна гэта адчула.

– Калі ўвайшлі ў вароты, што ішлі да драўлянага горада, адразу адчулі сябе ў сярэднявеччы. Вельмі цікава было не толькі паглядзець на старажытную зброю, але і паслухаць, як пра яе распавядаў удзельнік фэсту – **Аляксандр Шоць**. Калі было незразумела, як карысталіся ёй раней, Аляксандр з напарнікам дэманстравалі зброю ў дзеянні. А яшчэ зброя была не толькі часоў ВКЛ. Я на свае вочы пабачыла і шатландскую, і скандынаўскую зброю.

– Мы дэманстравалі не толькі зброю, я назваў бы гэта дэманстрацыяй страшнага сярэднявечча, – кажа ўдзельнік фестывалю Аляксандр Шоць. – Паказвалі на прыкладзе самых смелых, як працавалі прылады для катавання. Нехта з натоўпу, паглядзеўшы на гэта, адзначыў, што андрэеўскі крыж вылечыць ад п'янства куды хутчэй, чым Хадоркін.

**За фестываль, прызнаецца Аляксандр, ён схуднеў на дзевяць кілаграмаў.**

– Але гэта таго варта. Я зразумеў, што людзям трэба не толькі відовішчы, але і інфармацыя пра тое, што і як адбывалася раней на нашай зямлі. Таму ў планах, вядома, працягваць традыцыю фестываляў. Я сам даведаўся пра сваё прозвішча цікавую рэч. Аказваецца, шатландцаў, што прыязджалі гандляваць на землі ВКЛ, называлі шотамі. А я ўсё думаў, што ж мяне так вабіць усё шатландскае.

**Наталля ТУР.**



Ураджэнка Каловічаў Валянціна Казакевіч (Капцюг) і яе муж Аляксандр (у цэнтры) сустрэлі свайго земляка прафесара Аляксандра Смоліка.

СВЯТЫ

## Каб адкрыць помнік, на фэст у Каловічы з'ехаліся землякі

ВІЛЕЙКА

**Памятную дошку аўтару "По диким степям Забайкалья" Івану Кандрацьеву 1 ліпеня на яго радзіме ў вёсцы Каловічы адкрылі землякі.**

Нарадзіўся паэт тут у 1848 годзе ў простай сялянскай сям'і.

Дзясяткі былых і сённяшніх жыхароў вёскі з'ехаліся на фэст.

Гістарычныя крыніцы паказваюць, што Каловічы сталі засяляць у канцы 16-га стагоддзя. Сярод першых жыхароў былі Дубовікі ды Пыскі з суседніх Більцавічаў, Рогачы з Іжы. І сёння гэтыя прозвішчы сустракаюцца па каловіцкіх адрасах.

Адным з самых знакамітых землякоў стаў Іван Кандрацьеў. Яго песні "По диким степям Забайкалья", "Очаровательные глазки" сталі народнымі.

Памятную дошку паэту і педагогу адкрылі даследчык творчасці Кандрацьева, ураджэнец Каловічаў, прафесар **Аляксандр Смолік**, старшыня раённага савета **Наталля Радзевіч** і аўтар праекта **Анатоль Капцюг**. Урачыстасць стала пачаткам свята вёскі.

Канцэрт самадзейных артыстаў з Любані, Вілейкі перамяжоўваўся ганараваннем самых маладых жыхароў з Каловічаў і самых сталых, самых лепшых гаспадароў і гаспадынь. Узнагароды ўручаў старшыня Любанскага сельвыканкама **Уладзімір Чуковіч**.

Ініцыятарам свята стала **Тамара Бурко**, жыхарка Каловічаў і дырэктар мясцовага Дома рамёстваў.

**Аддзел інфармацыі.**
**Падрабязны фотарэпартаж змешчаны на сайце**

Rh.by

ВЫСТАВЫ

## Запрацуе выстава Алы Ягоравай: графіка, сілуэт, лялька

ВІЛЕЙКА

**Адкрыццё пройдзе ў пятніцу, 10 ліпеня, а 17-й гадзіне ў выставачнай зале імя Нікадзіма Сіліванoвіча.**

На выставе будуць работы, выкананыя ў розных тэхніках: графіка, сілуэт, аўтарская інтэр'ерная лялька.

Мастачка жыве ў найстаражытным горадзе паўночна-заходняй Расіі – Старая Руса, які адзначае сваё 1000-годдзе.

Нарадзілася Ала Ягорава непадалёк у невялікім паселішчы.

Мастачкай марыла быць заўсёды. У 2001 годзе скончыла Наўгародскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Яраслава Мудрага. Ад 1996 года выкладала ў школе мастацтваў горада Старая Руса. Педагагічны стаж каля 20 гадоў.

Удзельнічала ў розных выставах горада Старая Руса. Працавала з жывапісам, графікай. Некалькі персанальных выстаў прысвяціла аўтарскай лялькі. Пасля пайшлі выставы работ – батык, ткацтва, фелтынг (валенне воўны), сілуэт.

Вучні Алы Ягоравай досыць паспяховыя ў творчасці. Перамагаюць як у раённых конкурсах, так і на міжнародных. За падрыхтоўку пераможцаў мастачку ўзнагародзілі дыпломамі і падзякамі.

Цяпер Ала Віталеўна працуе настаўніцай выяўленчага мастацтва ў Александрынскай гімназіі горада Санкт-Пецярбурга. Вучыць дзяцей асновам графікі і жывапісу, роспісу, скульптуры і многаму іншаму.

**Па інфармацыі Вілейскага краязнаўчага музея.**

ГІСТОРЫЯ

# Рэха падземна-міннай вайны. Барацьба за Залатую Горку

*Праццяг. Пачатак у №№25, 26.*

СМАРГОНЬ

**Адна з найбольш трагічных і кровапралітных старонак барацьбы ў час Першай сусветнай вайны разгарнулася вакол дамінуючай вышыні з адзнакай 72.9 каля Баравога млына, на паўночна-ўсходняй ускраіне Смаргоні.**




Фота забяспечана Уладзімірам ПРЫХАЧАМ.

Залатая Горка. На шыльдзе аднаго з надмагільных крыжоў надпіс: "39 невядомых рускіх салдат".

У салдат рускай імператарскай арміі гэта вышыня займела назву Залатая Горка.

## На Залатую Горку неслі косткі салдат

Прасачыць пасляваенны лёс гэтай мясціны дапамагла **Надзея Маркава**. Бескарыслівая і шчырая руплівіца нашай мясцовай спадчыны падзялілася ўспамінамі, якія па працягу дзесяцігоддзяў назапашвала ад смаргонскіх старажылаў. З іх стала вядома, што ў пасляваенны час смаргонскія жыхары сабраліся разам і пачалі збіраць па горадзе парэшткі загінулых салдат.

Потым зрабілі вялікую магілу каля Залатой Горкі і перанеслі туды гэтыя косткі і чарапы. Наверсе паставілі драўляны крыж, якім завяршылі брацкае пахаванне. У тыя ж часы была распаўсюджаная польская газета з аповедам пра гэту пачэсную справу жыхароў Смаргоні.

Летась мне пашчасціла знайсці асобнік друкаванага выдання, пра які ішла гаворка ва ўспамінах. Гэта быў артыкул смаргонскага краязнаўцы **Альфонса Высоцкага** пад назвай "Вечны адпачынак дай ім, Божа!". Ён пабачыў свет 30 кастрычніка 1932 года ў часопісе "Ілюстрацыя Польска".

Дзякуючы аўтару артыкула Альфонсу Высоцкаму і дапамозе **Тацяны Кляшчонак**, якая пераклала тэкст, мы пераносімся ў нашы мясціны 30-х гадоў мінулага стагоддзя: "Смаргонь, кастрычнік. Шалёная ваенная віхура, якая дасягнула самых аддаленых куткоў, яшчэ не ўсюды сёння згубіла свой грозны знішчальны след. Да такіх куткоў, у якіх яшчэ сёння бачны нясцёртыя сляды крывавых баёў за кожную пядзю зямлі, належаць ваколіцы Смаргоні ў паўночна-ўсходняй частцы Польшчы, на Віленшчыне. Тэрыторыя, якая распасціраецца на паўночны ўсход ад Смаргоні да ракі Віліі і далей за яе русла, густа прарэзаная стралковымі акопамі, якія цягнуцца бясконцай лініяй праз узгоркі, палі, лясы, перасякаючы праз рэкі – прытокі Віліі.

Нягледзячы на тое, што частка гэтых акопаў пад уплывам атмасферных з'яў даўно асыпалася, а іншая густа зарасла травой, па якой пасуць кароў і коз, гэтыя маўклівыя акопы, у якіх разыгрывалася не адна салдацкая трагедыя і ў якіх не адзін сын добрай маці навек заснуў, яшчэ сёння пужаюць сваёй колькасцю і даўжынёй.

Паміж акопамі раскіданыя шматлікія бетонныя сховішчы, многія з якіх, нягледзячы на разбурэнне і разборку мясцовымі людзьмі, захаваліся ў цэласнасці.

Паміж лініямі прыяцельскіх і непрыяцельскіх акопаў можна заўважыць гіганцкія ямы, якія сведчаць пра выбухі вялікіх гарматных снарадаў, а побач знаходзяцца меншыя ямы ад гранат і палі, узараныя снарадамі, капаючыся ў якіх, можна знайсці не адзін зарад ад вялікіх снарадаў.

## Хто падумаў пра невядомых салдат

Сярод гэтых палёў, узгоркаў, лясоў, у даліне ціхага ручая, які скача па камянях да Віліі, знаходзяцца дзясяткі салдацкіх магілак, закладзеных у спешцы. Большасць крыжоў на іх носіць надпіс "Невядомы"…

Пра гэтых герояў не падумаў ніхто, апроч невялікай колькасці жыхароў Смаргоні. Менавіта яны на самым высокім месцы гэтага поля бою, за якое вяліся самыя зацятыя і крывавыя баі, паставілі сціплы белы крыж. Яго можна ўбачыць каля тракту, што вядзе ў Вілейку, і дамінуе над усёй ваколіцай.

Тут бачныя шматлікія паглыбленні ў зямлі, якія сведчаць пра тое, што пад імі раскладаюцца целы загінулых і засыпаных.

Вакол гэтага крыжа вятры і звяры адкопваюць рэшткі мундзіраў, абутку, зброі, салдацкіх лапат, калі-нікалі бялеюць тут цэлыя косці і чалавечыя чарапы. Мясцовае насельніцтва з забабонным страхам пазбягае гэтага месца, дзе, як кажуць, пры святле месяца блукаюць сотні і тысячы душ загінулых, пахаваных у брацкай салдацкай магіле.

У іншых краінах, як часта даводзіцца чытаць, магілы загінулых ушаноўваюць іншым, больш шляхетным чынам, будуючы прыгожыя магільнікі, асвятляючы іх вечным агнём. У нас пра гэта ціха – ша!

Над забытымі магіламі герояў часам праходзіць адзінокі вандроўнік, набожна хрысцячыся або шэпчучы ціхую малітву за супакой іх душ; многія мінаюць іх раўнадушна. Толькі немцы прысылаюць раз-пораз кіраўніцтву горада дробныя сумы, просячы аб доглядзе магіл.

## Бор, які памятае Міндоўга

Агароджы сялянскіх двароў і палеткаў зробленыя з калючага дроту або ацалелыя ваенныя засекі дачакаліся сёння іншага выкарыстання: яны абараняюць пчаліныя борці і вуллі ад уварвання непажаданых гасцей.

Бор над магіламі, які памятае часы Міндоўга, шуміць сваю адвечную песню, а ціхія хвалі Віліі шапочуць у Задушны дзень малітвы за вечны супакой забытых герояў. Хмары падвіленскага неба, якія ва ўсёй іх велічы так прыгожа апісаў **Міцкевіч**, акрываюць ценем пасмяротныя рэшткі не аднаго забітага, невядомага салдата, а заходзячае сонца асвятляе гэты супольны катафалк, над якім птушкі нябесныя сумна пяюць: "Спачывайце ў спакоі…"

Тагачасныя аўтарскія фотаздымкі даюць уяўленне пра стан могілак, адлюстроўваюць варонку ад міннай атакі, якую Альфонс Высоцкі палічыў за варонку ад выбуху артылерыйскага снарада. Цэнтральны крыж значных памераў, вакол яго прытуліліся магільныя крыжы. Самі могілкі абгароджаны некалькімі радамі калючага дроту, а на шыльдзе аднаго з надмагільных крыжоў можна прачытаць надпіс: "39 невядомых рускіх салдат".

У савецкія часы на месцы занядбаных могілак быў створаны гарадскі сметнік, які сёння ўжо не дзейнічае. Да нашага часу ў той мясціне захаваліся дзве іншыя варонкі ад мінных ўзрываў. Ёсць меркаванне, што больш працяглы кратар мог утварыцца ад падрыву двух зарадаў. Гэтыя аб'екты падземна-міннай вайны перадаюць не толькі маштабы мінулай трагедыі, а з'яўляюцца ўнікальнымі помнікамі сусветнай вайны.

**Уладзімір ПРЫХАЧ, Смаргонь.**

**Больш фота на сайце**

Rh.by

Заканчэнне будзе.

КАЛЯНДАР

## 10 ЛІПЕНЯ

**115 гадоў** з дня нараджэння (1900) мастака Пётры Сергіевіча, беларускага жывапісца і графіка, мастака-монументаліста. Заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы (1965). Выканаў манументальныя размалёўкі ў касцёлах у Солах (1934), Смаргоні (1936). Сцэнапіс у Солах стаў самым вялікім цыклам мастака, манументальнымі размалёўкамі быў упрыгожаны ўвесь касцёл – столь і сцены. Але размалёўкі былі перапісаныя ў час чарговых рамонтаў храмаў. У Смаргоні сценапіс не захаваўся. Памёр у 1984 годзе.

**1795 год.** У Гродне заснаванае Вярхоўнае літоўскае кіраванне.

## 13 ЛІПЕНЯ

**1990 год.** Памёр Янка Багдановіч, пісьменнік, мемуарыст, вязень савецкіх канцлагераў. Пахаваны на могілках Саўлес у Вільні. Нарадзіўся ў вёсцы Гібінята Ашмянскага павета Віленскай губерні, цяпер Валожынскі раён. Пасля смерці бацькоў у 1918-м годзе выхоўваўся ў Барунскім і Віленскім дзіцячых прытулках. У 1927-м скончыў Віленскую беларускую гімназію і ў тым жа годзе паступіў на працу ў друкарню імя Францішка Скарыны. У гады Другой сусветнай вайны вучыўся ў Віленскай настаўніцкай семінарыі, настаўнічаў. 13 кастрычніка 1952 года Вярхоўны Суд Літоўскай ССР прыгаварыў яго, як беларускага "буржуазнага" нацыяналіста, да 25 гадоў зняволення, якія адбываў на Варкуце. Але ў канцы жніўня 1956 года рэабілітаваны. Усе наступныя гады працаваў у школе ў Вільні. Падрыхтаваў, пры дапамозе і пры непасрэдным удзеле Арсена Ліса, кнігу ўспамінаў "На жыццёвым шляху" (Мінск, 1992, выдавецтва "Мастацкая літаратура"), якая выйшла пасля яго смерці.

## 14 ЛІПЕНЯ

**95 гадоў** з дня нараджэння Алеся Астапенкі (1920 – 1970), беларускага паэта, перакладчыка. Працаваў у рэдакцыі газеты "Звязда". У час Вялікай Айчыннай вайны – рэдактар і дыктар беларускай рэдакцыі Усесаюзнага радыёкамітэта (Масква).

## 15 ЛІПЕНЯ

**115 гадоў** з дня нараджэння (1900–1976) Уладзіміра Дубоўкі, беларускага паэта, празаіка, перакладчыка, крытыка. Нарадзіўся ў вёсцы Агароднікі Вілейскага павета Віленскай губерні, цяпер Пастаўскі раён.

**605 гадоў** назад (1410) адбылася Грунвальдская бітва, у выніку якой аб'яднаныя сілы Вялікага княства Літоўскага і Польшчы разгромілі войска Тэўтонскага ордэна.

Марыя БЕРАСНЕВА.

# Ці патаннеюць шэнгенскія візы?

**Разам з аналітыкам Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў BISS Андрэем Елісеевым "РГ" разбіраецца ў візавай сітуацыі паміж Беларуссю і Еўрапейскім Саюзам.**



Інфаграфіка Аляксандры ПАРАХНІ.

Магчыма, ужо летам 2016 года шэнгенская віза для беларусаў будзе каштаваць 35 еўра замест цяперашніх 60.

## Чаму не было добрых навін з Рыгі

Сёлета надзеі беларусаў былі звязаныя з самітам усходняга партнёрства, які адбыўся ў Рызе ў маі. Чакалася, што менавіта там будзе падпісаная дамова аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС.

Аднак прадстаўнікі Францыі і Швецыі звярнулі ўвагу на тое, што беларускія дыпламаты дагэтуль не маюць біяметрычных пашпартоў. Такі пашпарт адрозніваецца ад звычайнага тым, што ў яго ўбудаваная адмысловая мікрасхема. На ёй запісаная інфармацыя аб уладальніку: ад прозвішча да адбіткаў пальцаў.

**У свеце 195 незалежных дзяржаў. Беларусы могуць без візы наведваць 27 з іх. Жыхары Уругвая – 132.**

Біяметрычныя пашпарты ў дыпламатаў – абавязковая ўмова ЕС. Пакуль Беларусь яе не выконвае, хаця неабходнае абсталяванне для вырабу такіх пашпартоў у краіны ўжо ёсць.

У выніку доўгачаканая дамова не была падпісаная ў Рызе.

– Хутчэй за ўсё, дамова будзе падпісаная ў другой палове гэтага года, – кажа Андрэй Елісееў. – Тады яна пачне дзейнічаць на практыцы ўжо з вясны 2016 года.

## Чаму дамову не падпісалі раней

– Калі параўноўваць Беларусь з іншымі краінамі рэгіёна, то мы бачым, як хранічна адстаём ад іншых, прыкладна на сем гадоў, – каментуе спадар Андрэй. – Час цягнулі як беларускі, так і еўрапейскі бок.

Калі ў 2005-2007 гадах Беларусь звярталася да Еўракамісіі з прапановай спрашчэння візавага рэжыму, ЕС выстаўляла свае ўмовы: абавязковая дэмакратыя і захаванне правоў чалавека.

У 2010 годзе чыноўнікі ЕС вырашылі адысці ад гэтых умоў. Але тады ў Еўракамісіі не атрымалася пачаць перамовы з Беларуссю: пасля прэзідэнцкіх выбараў у 2010 годзе двухбаковыя стасункі Беларусі і ЕС значна пагоршыліся. Перамовы зацягваў ужо беларускі бок. Год таму яны ўсё ж пачаліся.

Як выглядаюць візавыя стасункі з ЕС у нашых суседзяў, вы можаце паглядзець у табліцы.

## Што рэальна зменіцца, калі дамову падпішуць

Аднак эксперт звяртае ўвагу на тое, што не варта звязваць надта вялікія надзеі з падпісаннем дакумента. Ён не азначае, што мяжа ў краіны ЕС стане адкрытай. Дамова – толькі першы крок на доўгім шляху адмены віз.

Кошт візы знізіцца з 60 да 35 еўра – гэтыя змены заўважыць на сабе кожны беларус. Да таго ж павялічыцца катэгорыя людзей, якім візы будуць даваць бясплатна. Будзе больш магчымасцяў атрымаць шматразовую візу.

– Калі Украіна падпісала аналагічную дамову, журналісты назвалі яе "расчараваннем года", – кажа **Мар'яна Кузьё**, кіраўнік праектаў украінскай грамадскай арганізацыі "Еўропа без бар'ераў". – Людзі чакалі кардынальнага паляпшэння сітуацыі з візамі, а ў выніку многія амаль не заўважылі змен.

Але дамова адкрые для Беларусі шлях да наступнага этапу спрашчэння візавага рэжыму.

**У 2014 годзе консульствы краін ЕС у Беларусі выдалі больш за 880 тысяч шэнгенскіх віз. Гэта самы высокі паказчык у свеце па колькасці шэнгенскіх віз на душу насельніцтва.**

Большасць еўрапейскіх экспертаў упэўнена, што спрашчэнне візавага рэжыму наступіць мінімум праз 7-10 гадоў.

– Пакуль Беларусь чакае змен на ўзроўні дамоў, раю займацца і біяметрычнымі пашпартамі, – дзеліцца ўкраінскім досведам Мар'яна Кузьё. – Нават калі візавы рэжым адменяць заўтра, ніхто ўсё роўна не зможа выехаць, бо не мае біяметрычных пашпартоў.

– У Беларусі ўжо ёсць некалькі пілотных праектаў па такіх пашпартах, – заўважае спадар Андрэй. – Аб'яўляліся конкурсы на іх узоры і тэхнічныя параметры, але адпаведны закон яшчэ не прыняты. Першыя пашпарты такога тыпу ўжо атрымалі беларускія маракі.

## Чаго яшчэ чакаць у 2016 годзе

Зацікаўленасць у бязвізавым рэжыме ёсць і з боку жыхароў ЕС. Па падліках Еўрапейскай камісіі, ЕС губляе мільёны еўра на патэнцыйных турыстах, якія не могуць наведваць ЕС з-за візаў.

Летась Еўрапейская камісія выступіла з прапановамі змен у Візавым кодэксе. Цяпер яны разглядаюцца ў Еўрапейскім парламенце і Савеце ЕС. Калі змены прымуць, іх адчуюць на сабе і жыхары Беларусі (глядзіце інфаграфіку).

– Урэшце мы бачым жаданне спрасціць візавы рэжым і з беларускага боку, – заўважае **Роберт Тышкевіч**, віцэ-старшыня камісіі па замежных справах сейма Польшчы, кіраўнік парламенцкай групы па Беларусі. – Мы не адступаем і ад плана па малым памежным руху, ён мае ўсе шансы на рэалізацыю.


**Аляксандра ПАРАХНЯ**
E-mail: alesia.ptushka@gmail.com

## Як складваюцца візавыя адносіны з ЕС у іншых краінах усходняга партнёрства*

| Краіна | Дамова аб спрашчэнні візавага рэжыму | Дыялог аб бязвізавым рэжыме | Кошт Шэнгенскай візы |
|---|---|---|---|
| Азербайджан | Дзейнічае ад верасня 2014 года | – | €35 |
| Арменія | Дзейнічае ад студзеня 2014 года | – | €35 |
| Беларусь | – | – | €60 |
| Грузія | Дзейнічае ад сакавіка 2011 года | Пачаўся ў чэрвені 2012 года | €35 |
| Малдова | Дзейнічае ад 2008 года | Пачаўся ў маі 2010 года. Ад мая 2014 – бязвізавы рэжым | – |
| Расія | Дзейнічае ад чэрвеня 2008 года | Перамовы ў снежні 2011 года | €35 |
| Украіна | Дзейнічае ад студзеня 2008 года | Пачаўся ў кастрычніку 2008 года | €35 |

* – па інфармацыі Андрэя Елісеева

## Польскі эксперт: "Беларусь не зможа і далей адцягваць старт малога памежнага руху"

Спазненне Беларусі ў развіцці візавых стасункаў з ЕС відаць яшчэ ў адной сферы – малым памежным руху (МПР). Дамова аб МПР дазваляе жыхарам памежжа без візы наведваць памежную тэрыторыю (30-50 км) суседняй краіны. Такая дамова дзейнічае толькі на беларуска-латвійскім памежжы. Літва і Польшча ўжо падпісалі неабходныя дакументы для старту МПР з Беларуссю, але цягам чатырох гадоў не атрымліваюць адказу з беларускага боку.

У Расіі дзейнічае ўжо тры такія дамовы (з Нарвегіяй, Латвіяй і Польшчай), ва Украіне – чатыры (з Польшчай, Славакіяй, Венгрыяй і Румыніяй).

– Афіцыйны Мінск не зацікаўлены стартам МПР збольшага з-за эканамічных прычын, – тлумачыць эксперт варшаўскага Цэнтра усходніх даследаванняў **Войцех Кананьчук**. – Я быў у Беларусі сёлета. У вас дорага. Магчымасць ездзіць на закупы ў памежжа падарве беларускую эканоміку.

У адным Беластоку беларусы штогод пакідаюць каля паўмільярда злотых. Эксперт заўважыў, што бачыць два шляхі развіцця падзей МПР у Беларусі.

– Першы – беларускі бок і надалей не будзе адкрываць мяжу. Але гэта састарэлая мадэль, усе суседнія краіны развіваюцца і адкрываюць межы. Колькі Беларусь зможа так пратрымацца? Не думаю, што доўга. Другі шлях – пакрокавая лібералізацыя, якую трэба пачынаць ужо цяпер.

– Для мяне дзіўна, што ніводная палітычная сіла яшчэ не выкарыстала гэту карту – малы памежны рух, – каментуе Андрэй Елісееў. – Яна ж проста ў руках ляжыць. Малдова, напрыклад, вельмі доўга марудзіла са стартам МПР з Румыніяй. Тады некаторыя партыі правялі дзясяткі сустрэч на памежжы, раздавалі буклеты аб выгодах МПР. І гэта вельмі дапамагло і прыспешыла працэс. У Беларусі пакуль такога няма.

# Піцер

## Горад, пра які нельга сказаць: я там быў



Фота Настассі РОЎДЫ.

Горад, якому паэты прысвячаюць вершы, пра які пішуцца песні. Горад- музей, горад-міф. Пра яго не скажаш, што ты там быў, бо ён раскрываецца кожны раз па-новаму і кожны раз хавае шмат нераскрытых таямніц.

### Арганізацыйны момант. Шукайце кватэру з парадным

Праз Маладзечна штодзень ходзіць цягнік Калінінград–Санкт-Пецярбург. Плаціш у касу 756 тысяч рублёў за месца ў плацкартным вагоне і праз 14 гадзін і 33 хвіліны ты ўжо на Віцебскім вакзале горада на Няве. Дарэчы, не спяшайцеся набываць білеты на цягнік дадому. Для параўнання: білет на цягнік каштуе 2700 расійскіх рублёў (756 тысяч рублёў), а на аўтобус, які спыняецца тут жа ля Віцебскага вакзала – 1700 расійскіх рублёў (476 тысяч рублёў).

Пра месцы, дзе кінуць рэчы, падрабязна спыняцца не будзем. Чаму проста кінуць? Таму што дзеясловы пераначаваць, спыніцца, выспацца, пажыць для Піцера не падыходзяць.

Усё залежыць ад вашага кашалька. Адзінае, што можна параіць, паспрабуйце знайсці кватэру ў звычайным жылым доме. Атмасферу Пецярбурга адчуеце з парога. У гэтым сэнсе нам пашанцавала. Жылы дом пабудовы 1880 года на вуліцы Паўстання. Парадная (таму што, калі вы скажаце пад'езд, вас не зразумеюць), высокія столі, шырокія падваконні.

– Калі некалькі гадоў нам усім мянялі вокны 1880 года на сучасны пластык, я плакала, – прызнаецца гаспадыня кватэры **Ірына.** – У гэтай кватэры мая бабуля перажыла блакаду.

А гукаізаляцыя такая, што не чуваць, што робіцца ў калідоры, не гаворачы ўжо пра суседскія кватэры.

Перад выхадам з дома пакладзіце ў кішэню 28 (7800) рублёў, калі збіраецеся ехаць на аўтобусе, ці 31 (8600) рубель, калі паедзеце на метро. Абавязкова ім скарыстайцеся. На станцыі Чарнышэўская эскалатар ідзе ўніз больш за тры хвіліны.

### Санкт-Пецярбург літаратурны

Калі вы едзеце ў Піцер на цягніку, то самы час скласці хаця б прыблізны спіс таго, што вам хацелася б паглядзець. Планаваць у гэтым горадзе немагчыма.

Выходзіце на Ліцейны – дом Ганны Ахматавай, выйдзеце з іншага боку – вы ўжо на Фантанцы. Ну як тут не паспрабаваць адшукаць славутага Чыжыка-Пыжыка? Пойдзеце ў другі бок таго ж Ліцейнага – трапіце ў дом Бродскага.

Дарэчы, пра музей **Іосіфа Бродскага** раскажуць гісторыю, што там усё яшчэ жыве жанчына, якая жыла тут і пры самім Бродскім. Калі стваралі экспазіцыю музея, бабулі прапанавалі купіць іншую кватэру. А тая, па чутках, папрасіла домік у Лісім Носе (ну, такія піцерскія Рагазы). У стваральнікаў музея, вядома, такіх грошай не знайшлося, таму для жанчыны проста зрабілі іншыя дзверы ў кватэру. Музей цяпер на рамонце, таму, прагульваючыся тут, можна проста зазірнуць на другі паверх і ўбачыць балкон Бродскага.

Ёсць у Пецярбургу яшчэ два адрасы вядомых людзей, куды не зазірнуць нельга. Першы адрас – Мыйка, 12. Дом-музей Пушкіна і Кузнечны завулак, дом 5 – кватэра Дастаеўскага.

Цана ўваходнага білета ў дом Дастаеўскага 100 (28 000) рублёў, да Пушкіна – 180 (50 400) рублёў. Калі вы збіраецеся наведаць Мыйку, прыхапіце яшчэ 100 рублёў, бо ў музей пускаюць толькі з аўдыягідам і ў складзе экскурсійнай групы. Так шмат ахвотных.

### Назад у 1958 год

Калі вы выходзіце на Неўскі праспект, парады, куды пайсці, будуць лішнімі. Тут перад вамі і Анічкаў мост, і канал Грыбаедава, і Казанскі сабор, і вядомыя грыфоны на Банкаўскім мосце, і храм Спаса на Крыві, і Ісакіеўскі сабор, і Эрмітаж, і Зімні палац, і вядомы Медны коннік. Проста паспявайце паварочваць галаву злева направа. І фатаграфуйце, фатаграфуйце, фатаграфуйце…

Калі раптам прагаладаецеся, смела заходзьце ў любую кавярню. Тут іх безліч. Але цэны будуць нашмат даражэйшыя, чым у кавярнях, якія знаходзяцца не ў цэнтры. Для параўнання: хот-дог у звычайнай кавярні каштуе 45 (12 600) рублёў, а кошт такога ж хот-дога на Неўскім – 160 (44 800) рублёў.

Але калі што і каштаваць на Неўскім, то запісвайце адрас: Вялікая Канюшанная, 25. Адрас легендарнай піцерскай пышачнай, дзе і сёння пануе 1958 год.

Пышкі, якія пякуцца тут, каштуюць 12 ( 3300) рублёў. І пякуцца яны па нязменным рэцэпце ад 1958 года. Каву падаюць у гранёных шклянках. Прычым, гэта не капучына, не латэ, не амерыкана, а звычайная, вельмі салодкая, кава з малаком. Кошт 25 (7000) рублёў.

Пабеглі слінкі? Тады слухайце яшчэ некалькі парадаў. Па-першае, заказваць тут менш за пяць пышак не прынята, а па-другое, ні ў якім разе не прагаварыцеся і не папрасіце пончыкаў, вас проста не абслужаць.

### Піцерскі мэйнстрым – разводныя масты і Пецяргоф

Пра гэтыя піцерскія славутасці, мяркуем, без выключэння чулі ўсе. У Санкт-Пецярбургу 21 разводны мост. У самай таннай вандроўцы, якую вам прапануюць здзейсніць на параходзіку, на свае вочы вы пабачыце, як разводзяцца тры: Дварцовы, Троіцкі, Ліцейны.

Усяго ў Санкт-Пецярбургу 342 масты. Вядомы мабільны аператар цягам лета праводзіць акцыю: калі вы пацалуецеся пад кожным мостам, атрымаеце бясплатныя размовы па мабільніку да канца года. Калі нікуды не спяшаецеся, паспрабуйце.

Двухгадзінная вандроўка на параходзіку каштуе прыкладна 800 (224 000) рублёў. Маленькая хітрасць: калі на вуліцы моцны вецер, масты могуць не развесці. Праўда, і вандроўка тады абыдзецца ў 300 (84 000) рублёў.

Асобны дзень сваёй вандроўкі прысвяціце падарожжу ў прыгарады горада. Можаце выбіраць і горад Пушкін (там, дзе знакаміты ліцэй, у якім вучыўся класік), і Кранштат, і, уласна, Пецяргоф.

Арганізаваная экскурсія, якую прапаноўваюць на кожным рагу, каштуе 1600 (448 000) рублёў. Калі ехаць самастойна – цана 460 рублёў, 400 (112 000) – уваход у парк, 60 (16 800) – кошт маршруткі. Плюс білеты ў кожны з палацаў Пецяргофа. Але, паверце, аднаго дня, каб наведаць усё, вельмі мала. Таму што плошча толькі аднаго Ніжняга парку – 102 гектары.

Калі мы запыталіся ў мясцовых, што такога чыста піцерскага можна прывезці дадому, нам адказалі:

– Вы што? У нас тут Фінляндыя пад бокам. У нас усё фінскае, а калі што смачнае (малако, мяса), то беларускае. Хаця, бярыце шакалад фабрыкі Крупскай.

Пра сувеніры з Санкт-Пецярбурга трэба пісаць асобны матэрыял. Хаця можна проста купіць магніцік.



Наталля ТУР
natali.turenok@gmail.com
044-566-26-99 (працоўны)



Фота Міхаіла МІХАЛЕВІЧА.

Штандар экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча" ва ўрачыстай абстаноўцы ўручыў старшыня Вілейскага райвыканкама Віктар Кот.

ТУРЫЗМ

# У сплаве бярэ ўдзел 77-гадовы турыст

ВІЛЕЙКА

**Трэцяга ліпеня ў гонар экспедыцыі, здзейсненай графам Канстанцінам Тышкевічам у 1857 годзе, стартавала традыцыйная дзявятая вандроўка па Віллі "Шляхам Тышкевіча".**

Доўжыцца яна будзе да 14 ліпеня.

Гэту традыцыю заклалі вілейскі турыст і краязнаўцы **Віталь Кастэнка** і **Анатоль Рогач**, а зараз эстафету пераналі **Міхаіл Петух** і **Дзмітры Ведзень**.

Стартавала больш за трыццаць байдарак, каякоў і гумовых лодак. Традыцыйна ўдзел прынялі турысты з Вілейкі, Смаргоні, Ашмянаў, Маладзечна, Астраўца, Жодзішак, Мінска. Сёлета на сплаве адсутнічалі ўдзельнікі з радзімы Канстанціна Тышкевіча – з Лагойска, але ўпершыню далучыліся шэсць турыстаў з Беластока.

На першай стаянцы за Мамаямі каардынатары вандроўкі Дзмітры Ведзень і Міхаіл Петух распавялі пра асаблівасці маршруту, цікавыя аб'екты, арыенціры месца стаянкі наступнага дня. Потым адбыўся імправізаваны канцэрт. Пелі пад гітару **Тацццяна Матафонава** – салістка нацыянальнага хору Беларусі, якая прымае ўдзел у сплаве, бард **Вера Сіроціна** і іншыя.

Каманду вандроўнікаў з Польшчы (4 мужчыны і 2 жанчыны) узначальвае турыст з досведам 77-гадовы **Чэсь Кучынскі**. Ён на сваёй яхце пераплываў Атлантыку, быў у горных экспедыцыях па Гімалаях.

Вялля – трэцяя рака у Беларусі, па якой робіць сплаў Чэсь, да гэтага быў сплаў па Прыпяці, Аўгустоўскім канале і далей у Нёман.

Дапамагае яму кіраваць яго сябра 69-гадовы **Лешак Панятоўскі**. Самы малодшы у групе 32-гадовы **Стэфан Себанец**.

Ежу ўдзельнікі сплава спрабавалі гатаваць на вадзе з Віллі. Сёлета яна надзвычай чыстая і празрыстая. Як растлумачыў удзельнік вандроўкі начальнік Вілейскай гідраметэастанцыі **Аляксандр Лабко**, гэта звязана з халоднай вясной і халодным пачаткам лета.

Сіне-зялёныя водарасці пачынаюць размнажацца ў вадасховішчы пры тэмпературы вады +25 градусаў. Таксама на чысціню вады Вілейскага вадасховішча паўплываў дазвол карыстацца маторнымі лодкамі, бо ад вінтамі рухавікоў вада дадаткова насычаецца паветрам.

Каардынатару вандроўкі Міхаілу Петуху нават прыйшлося папярэдзіць аб недапушчальнасці ўжывання для прыгатавання ежы вады з Віллі, асабліва пасля ўпадзення ў яе Ушы. Уша сёлета зноў увайшла ў топ дзесяці самых забруджаных рэк Беларусі. І проста параіў карыстацца крынічнай вадой з левага берагу Віллі.

Міхаіл МІХАЛЕВІЧ,
удзельнік вандроўкі
"Шляхам Тышкевіча".

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## Першае паражэнне маладзечанцаў у другой лізе

**4 ліпеня на гарадскім стадыёне адбыўся матч супраць каманды "Тарпеда-Магілёў".**

Маладзечанцы саступілі з лікам 1:2.

Першы гол у свае вароты маладзечанцы прапусцілі ўжо на другой хвіліне матча.

За дзве хвіліны да перапынку лік становіцца – 0:2 на карысць Магілёва.

Другі тайм насычаны небяспечнымі момантамі як для каманды з Маладзечна, так і для гасцей.

Але канчатковы лік вызначыўся толькі на дадатковых хвілінах. Прызначаны пенальці выконвае маладзечанскі футбаліст **Мікалай Татун** і робіць лік 1:2.

Матч супраць каманды з Магілёва паставіў кропку ў першым крузе чэмпіянату краіны па футболе ў другой лізе.

Маладзечанцы завяршаюць яго на першым месцы.

**Турнірная табліца пасля першага круга выглядае наступным чынам:**

| Месца | Каманда | Перамога | Нічыя | Паражэнне | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Маладзечна -ДЮСШ-4 | 6 | 2 | 1 | 20 |
| 2 | Тарпеда (Магілёў) | 6 | 0 | 3 | 18 |
| 3 | Вікторыя (Мар'іна Горка) | 5 | 2 | 2 | 17 |
| 4 | Ашмяны | 5 | 2 | 2 | 17 |
| 5 | Асіповічы | 5 | 0 | 4 | 15 |
| 6 | Спартак (Шклоў) | 4 | 2 | 3 | 14 |
| 7 | Жлобін | 4 | 1 | 4 | 13 |
| 8 | АК Ждановічы | 1 | 4 | 4 | 7 |
| 9 | Рагачоў | 1 | 2 | 6 | 5 |
| 10 | Прыазер'е (Верхнядзвінск) | 0 | 1 | 8 | 1 |

Наталля ТУР.

НАВІНЫ

### "Смаргонь" у 1/16 фіналу згуляе з "Лідай"

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ

Адбылося лёсаванне 1/16 фіналу Кубка Беларусі па футболе. На гэтай стадыі згуляюць "Ліда" – "Смаргонь", а "Ашмяны" сустрэнуцца з мікашэвіцкім "Гранітам". Сапернікі правядуць дзве гульні: дома і на выездзе. Матчы адбудуцца 18 ліпеня і 1 жніўня, паведамляе by.tribuna.com.

### Пройдзе турзлёт памяці Віталя Кастэнкі

ВІЛЕЙКА

Ад 10 да 12 ліпеня на беразе Вілейскага вадасховішча (Чыжэвіцкая затока) намечана правесці адкрыты міжрэгіянальны турысцкі злёт працоўнай моладзі. Прысвячаецца ён памяці аднаго з арганізатараў турысцкага руху ў рэгіёне **Віталя Кастэнкі**.

У праграме злёту – сілавое дваябор'е, начное арыентаванне, валейбол, дартс, веславанне, пераадоленне турыстычнай паласы, перацягванне канату, розныя конкурсы.

Аддзел інфармацыі.

### Юныя футбалісты з Маладзечна перамагаюць у расійска-беларускім турніры

МАЛАДЗЕЧНА

Расійска-беларускі дзіцячы турнір па футболе адбыўся ў канцы чэрвеня ў горадзе Пушкін, што ў Ленінградскай вобласці.

Падначаленыя **Аляксандра Гармазы** прывезлі адтуль першае месца, абыграўшы іншыя восем камандаў. У турніры ўзялі ўдзел 10-13-гадовыя футбалісты.

Маладзечанцы згулялі чатыры матчы. Першы матч супраць каманды з Кінгісепскага раёна Ленінградскай вобласці маладзечанцы выйгралі з лікам 4:1.

Усе мячы ў вароты каманды сапернікаў забіў маладзечанец **Іван Каленскі**, які стаў лепшым бамбардзірам турніру.

Матч супраць гэтай каманды – гэта быў адзіны матч, у якім варатар маладзечанскай каманды **Даніла Севярын** прапусціў мяч. У астатніх матчах, якія давялося згуляць маладзечанцам, вароты Данілы Севярына так і засталіся непрыступнымі для іншых камандаў.

Маладзечанцы ў фінале з лікам 1:0 выйгралі ў каманды Бутурлінаўскага раёна Варонежскай вобласці. І з лікам 2:0 перамаглі каманду Пушкінскага раёна Санкт-Пецярбурга.



Фота detskoeselsky.ru.

Трэнер Аляксандр Гармаза са сваёй камандай.

### У суботу ў футбол згуляюць ветэраны

МАЛАДЗЕЧНА

Гульня на кубак Мінскай вобласці па футболе сярод ветэранаў адбудзецца 11 ліпеня на гарадскім стадыёне.

Каманда Маладзечанскага раёна згуляе супраць ветэранаў футбола з Барысава.

У склад маладзечанскай каманды ўвойдуць **Уладзімір Галубко** (капітан каманды), **Дзмітры Вышынскі, Генадзь Талькоўскі, Сяргей Карыцька, Сяргей Рысік** і іншыя футбалісты.

Пачатак гульні а 17 гадзіне. Уваход вольны.

### Пройдзе спартакіяда работнікаў лясгаса

МАЛАДЗЕЧНА

У пятніцу, 10 ліпеня, адбудзецца абласная спартакіяда сярод работнікаў лясгасаў.

Спаборніцтвы па валейболе, гіравым спорце, дартсе, настольным тэнісе і шашках адбудуцца ў спартыўна-забаўляльным цэнтры. Спаборніцтвы па футболе і лёгкай атлетыцы пройдуць на гарадскім стадыёне.

Наталля ТУР.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Наталлі ТУР

**Маленькая маладзечанка Лера падчас святкавання Купалля ў гарадскім парку. Падобны вяночак можна было набыць у рамесніцы. Кошт вянка – 20 тысяч рублёў. Той, хто верыць у варажбу, мог апусціць свой вянок у ваду ля вострава або пакінуць яго на памяць і проста паглядзець на вогнішча, паслухаць канцэрт.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 6 | | | | 1 | | | | 3 |
| | | | 8 | | | | 5 | |
| | 1 | 3 | 7 | | | | | |
| | | | | 2 | | 5 | | 4 |
| | 7 | | 3 | | 1 | | 8 | |
| 8 | | 2 | | 7 | | | | |
| | | | | | 7 | 8 | 4 | |
| | 6 | | | | 2 | | | |
| 5 | | | | 4 | | | | 6 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● ЛІТАРАТУРА

# 10 кніг ад паэта Навума Гальпяровіча, якія дазволяць адчуць сябе беларусам

**Удзельнічайце ў конкурсе, які ладзяць Цэнтральная раённая бібліятэка імя Максіма Багдановіча, курсы беларускай мовы "Мова Нанова" і "Рэгіянальная газета".**

Запрашаем вас **ад 15 чэрвеня да 15 верасня** завітваць у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Максіма Багдановіча і браць для чытання беларускія кнігі ці часопісы. Яна часова месціцца ў бібліятэцы "Верасок" па адрасе: ***Вялікі Гасцінец, 121.***

Пераможцаў вызначаць у верасні. Лепшых кнігалюбаў чакаюць падарункі. Для таго, каб было прасцей выбраць кнігу, "РГ" друкуе спісы лепшых кніг на думку пісьменнікаў, якія ўдзельнічалі ў сёлетнім Нацыянальным фестывалі беларускай песні і паэзіі.

## ТОП-10 ад Навума Гальпяровіча

1. **М. Багдановіч** "Вянок";
2. **В. Быкаў** "Сотнікаў";
3. **Ул. Караткевіч** "Каласы пад сярпом тваім";
4. **Л. Дайнека** "Меч князя Вячкі";
5. **Я. Брыль** "Жменя сонечных промняў";
6. **М. Стральцоў** "Мой свеце ясны";
7. **А. Пісьмянкоў** "Я не пamру, пакуль люблю";
8. **А. Брава** "Каменданцкі час для ластавак";
9. **Р. Барадулін** "Адам і Ева";
10. **А. Сербантовіч** "Пярсцёнак";

А таксама кнігі паэзіі **Максіма Танка, Алеся Разанава, Леаніда Дранько-Майсюка, Янкі Сіпакова,** прозы **Віктара Карамазава, Вячаслава Адамчыка, Алеся Жука, Андрэя Федарэнкі.**

**Падрыхтавала Таццяна ЗАКРЭЎСКАЯ, загадчыца аддзела абслугоўвання Маладзечанскай цэнтральнай раённай бібліятэкі.**

● РЭПЕРТУАРЫ

## Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
10 ліпеня – у 15:30 (цана білета: 30 000 рублёў), у 17:40 і 19:50 (55 000)
11 ліпеня – у 13:30 і 15:40 (30 000), у 19:50 (55 000 рублёў)
12 ліпеня – у 13:00 і 15:10 (30 000), у 19:20 (55 000 рублёў)
13 ліпеня – у 15:10 (30 000), у 17:20 і 21:30 (55 000)
14 і 15 ліпеня – у 15:00 (30 000), у 17:10 (55 000)
16 ліпеня – у 17:30 (55 000 рублёў)

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (2D, ЗША, 2015, з 16 год)
11 ліпеня – у 17:50
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, музыка, драма "**Супер Майк XXL**" (ЗША, 2015, з 18 год)
12 і 13 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Прэм'ера! Жахі, трылер "**Палтэргейст**" (3D, ЗША, 2015, з 16 год)
10 і 11 ліпеня – у 22:00 (60 000)
12 ліпеня – у 17:20
13 ліпеня – у 19:30
14 ліпеня – у у 21:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Фантастычны баявік "**Чалавек-мурашка**" (ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 ліпеня – у 15:10 (45 000), у 19:40 (55 000) і ў 22:00 (60 000)

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (3D, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
11 ліпеня – у 14:30
12 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фэнтэзі "**Вій**" (3D, Расія, 2014)
10 і 11 ліпеня – у 20:30
12 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі, прыгоды "**Гняздо дракона**" (3D, Кітай, 2014, без узроставых абмежаванняў)
10 ліпеня – у 16:30 (20 000) і 18:30 (25 000)
11 ліпеня – у 16:30 і 18:30
12 ліпеня – у 14:00 і 18:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Камедыя, меладрама "**Экзамен для дваіх**" (ЗША, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
13 ліпеня – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінал, драма, камедыя "**Воўк з Уол-стрыт**" (ЗША, 2013, з 18 год)
13 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**Оз: Вяртанне ў Ізумрудны горад**" (ЗША, Індыя, 2013, без абмежаванняў)
14 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Прыгоды "**Тайна цёмнага пакоя**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Сямейны "**Дзённік мамы першакласніка**" (Расія, 2014, без узроставых абмежаванняў)
16 ліпеня – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Камедыя "**Тупейшы і яшчэ тупейшы 2**" (ЗША, 2014, з 16 год)
14, 15 і 16 ліпеня – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл.: **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**

## Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя "**Марка Макака**" (Данія)
10 ліпеня – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Баявік "**Джон Уік**" (ЗША, з 16 год)
10 ліпеня – у 18:30
11 ліпеня – у 18:00
12 ліпеня – у 20:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Трылер "**Перавага**" (ЗША, Кітай, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
10 ліпеня – у 20:30
11 ліпеня – 20:00
12 ліпеня – у 18:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя "**КіноДзяцінства. Маша і мядзведзь: Героямі не нараджаюцца. Новыя эпізоды**" (Расія, без узроставых абмежаванняў)
11, 12 ліпеня – у 14:00
Цана білета: 12 тысяч рублёў

Анімацыя "**Олі і скарб піратаў**" (3D, ЗША, 2014, без узроставых абмежаванняў)
15 і 16 ліпеня – у 13:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Анімацыя "**Гняздо дракона**" (3D, ЗША, да 12 гадоў у суправаджэнні дарослых)
15 і 16 ліпеня – у 15:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Трылер "**Вій**" (3D, Расія, Украіна, 2014, да 12 гадоў у суправаджэнні дарослых)
15 ліпеня – у 17:30 і 20:00
16 ліпеня – у 18:00 і 20:30
Цана білета: 30 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, камедыя "**Міньёны**" (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
10 ліпеня – у 12:30 і 14:30 (30 000 рублёў), у 19:00 (55 000 рублёў)
11, 12 ліпеня – у 12:00 і 14:30 (30 000), у 19:00 (55 000)
15 ліпеня – у 13:00 і 15:30 (30 000), у 18:00 (55 000)
16 ліпеня – у 13:00 і 15:30 (30 000 рублёў)

Камедыя, драма "**Супер Майк XXL**" (2D, ЗША, 2015, з 18 год)
10, 12 ліпеня – у 17:00
11, 15 ліпеня – у 21:30
Цана білета: 45 000 рублёў

Камедыя, баявік "**Прыгажуні ў бягах**" (2D, ЗША, 2015, з 16 год)
10, 12 ліпеня – у 21:30
11 ліпеня – у 17:00
15 ліпеня – у 20:00
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік "**Чалавек-мурашка**" (3D, ЗША, 2015, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
16 ліпеня – у 19:00 і 21:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Тэл.: **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП 10-16 ЛІПЕНЯ

**Авен.** Не рабіце неабдуманых учынкаў, не трацьце дарэмна энергію і не заключайце сумнеўных здзелак. Калі вам удасца пазбегнуць неканструктыўных дзеянняў, вы адкрыеце дарогу да бяспечнай будучыні, дабрабыту.

**Цялец.** Штодзённа ў галаве праносяцца тысячы думак. Шмат якія з іх – негатыўныя, нават палохаюць. Не верце ім. Гэта толькі думкі, і яны не стануць рэальнасцю, калі вы ім не дапаможаце.

**Блізняты.** Калі вы ведаеце, што такое шчасце, то пастарайцеся захаваць тое адчуванне як мага даўжэй. І часцей вяртайцеся да гэтага стану.

**Рак.** Калі вы не можаце вызначыцца, купіць канапу ці адправіцца ў падарожжа, – заўсёды выбірайце другое. Радасць і станоўчыя ўспаміны нашмат лепш за матэрыяльныя рэчы.

**Леў.** Ва ўласных адносінах слухайце сваё сэрца, толькі яно падкажа вам правільны выхад у любой сітуацыі.

**Дзева.** Можа пагоршыцца самаадчуванне, асабліва калі вы грэбуеце падтрымкай сваёй фізічнай формы. Тое, як вы справіцеся з абставінамі гэтага перыяду, залежыць ад вашых поглядаў і сталасці.

**Шалі.** Адносіны з блізкімі людзьмі застынуць на мёртвай кропцы. Гэта і добра. Аднак калі раптам і ўзнікнуць рознагалоссі, то вам лепш не ўнікаць у сутнасць праблемы. Спакойна слухайце і запамінайце кінутыя ў сэрцах словы, але з адлегласці. Пасля атрыманай інфармацыяй можна будзе выгадна скарыстацца.

**Скарпіён.** У вас павышаецца дзелавая актыўнасць. Галоўнае, не канцэнтруйце сваю ўвагу на цяжкасцях, а правільна спрыт і схіліце сітуацыю, якая склалася, на свой бок.

**Стралец.** У вас ёсць шанец атрымаць тое, што вы хочаце. І не трэба лавіць лёс за хвост, трэба дачакацца, каб ён сам павярнуўся да вас тварам.

**Казярог.** Не адмаўляйце сабе ў задавальненні жыць так, як вам хочацца.

**Вадалей.** Як часта вы весяліцеся? Жыццё кароткае, і трэба атрымліваць асалоду ад яго. І не трэба думаць, што падумаюць іншыя, калі вам добра.

**Рыбы.** Закіньце ўсе нетэрміновыя справы, займіцеся тым, што сапраўды важна цяпер. І не сумнявайцеся ў сваім поспеху, вы можаце самі кіраваць ім.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

**Камент-эксперт**
Выкажы сваё меркаванне пра газету ці пра асобны артыкул, пасылаўшы SMS-паведамленне на нумар +375 (29) 67-68-420, на e-mail **regionnews@rh.by** або пакінь каментар на **Rh.by**


# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27


● НАДВОР'Е

**11 ліпеня, субота**

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +15 / +18 | | +12 / +18 | | +14 / +22 | | +13 / +20 | |
| | 734 | → 7 | 733 | ↘ 6 | 736 | → 6 | 734 | → 5 |
| Вільня | +11 / +17 | | +10 / +20 | | +11 / +17 | | +13 / +18 | |
| | 741 | ↗ 9 | 743 | ↘ 6 | 745 | → 6 | 742 | → 5 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне.

Усход 4.53
Захад 21.43
Даўжыня дня 16.50

Усход 1.39
Захад 16.53
Квадра 4




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

НАРАЧ (КУПА)

Мінімальная тэмпература +6,9 °C у 2000 годзе
Максімальная тэмпература +31,8 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 22,3 мм у 1980 годзе
Назіранні за 22 год (°C). Паводле meteoinfo.by

● ВЫСТАВЫ

# У Смаргоні запрацуе выстава, прысвечаная Агінскім

СМАРГОНЬ

**Пачнецца 10 ліпеня а 15-й гадзіне і працягнецца месяц.**



Адна з прац, якую можна будзе ўбачыць на выставе.

Як распавяла дырэктар Смаргонскага гісторыка-краязнаўчага музея **Марына Кіроўская**, выстава "Мелодыі Радзімы" будзе працаваць месяц.

У ёй бяруць удзел сябры суполкі "Абуджэнне" з Мінска і Узды: **Андрэй Лычкоўскі, Фёдар Ладуцька, Уладзімір Сайко** і **Яўген Шунейка**.

Таксама да гэтай выставы далучыліся сябры мастацкай суполкі "Слонім-art" **Васіль Грыневіч, Леанід Богдан, Яўген Іваноў, Віталь Фядотаў, Тамара і Алесь Стацэнкі, Казімір Кулеш** і **Уладзімір Макарэвіч**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Як дзеці адпачываюць у летніках, чытайце ў наступным нумары "РГ".



Германский Бундестаг ежегодно **приглашает выпускников вузов** из более чем 40 стран, в том числе из Беларуси, принять УЧАСТИЕ В КОНКУРСЕ НА ПОЛУЧЕНИЕ МЕЖДУНАРОДНОЙ ПАРЛАМЕНТСКОЙ СТИПЕНДИИ.

В рамках данной программы молодые люди, обладающие высокой квалификацией и проявляющие интерес к политике, смогут ознакомиться с практическим опытом в сфере парламентской деятельности. Кроме этого, Германский Бундестаг предлагает стипендиатам обширную рамочную программу и возможность посещать занятия в трех университетах Берлина.

**Заявки на участие в конкурсе принимаются в Посольстве Германии в Минске. Срок подачи документов продлён до 31.07.2015 г.**

Более подробная информация: **www.minsk.diplo.de**
Актуальную информацию Вы всегда найдете на странице Посольства Германии в **Facebook.**

Посольство Федеративной Республики Германия в Минске. УНП 101166185.




Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№ 28 (1054) 10.07.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02330/19 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 914. Падпісана ў друк у 9.00 9.07.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.